# Камянецкая вежа

## Каменецкая башня

## Kamenets tower



УДК 728.8.03(476.7)
ББК 85.11(4Беи)
К18

Аўтар тэксту **А.А. Ярашэвіч**

Фота **А.П. Дрыбаса, Дз.М. Раманюка**

Пераклад на англійскую мову **Ю.В. Бажэнава**

*Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь*

На тытуле — помнік князю Уладзіміру Васількавічу ў Камянцы (скульптар А.І. Лышчык)

**ISBN 985-01-0586-0**

Галіцка-валынскі летапіс пад 1276 г. захаваў прыгожы аповяд пра заснаванне Камянца валынскім князем Уладзімірам Васількавічам: «І затым уклаў Бог добрую думку ў сэрца князю Уладзіміру, задумаўся ён, каб дзе-небудзь за Бярэсцем збудаваць горад. І ўзяў ён кнігі прарокаў, у думках кажучы сабе: «Госпадзе Божа, моцны і ўсемагутны, які сваім словам стварае і разбурае, што Ты, Госпадзе, укажаш мне, грэшнаму рабу свайму, тое я і зраблю». Разгарнуў кнігу, і выпала яму прароцтва Ісайі: «Дух Госпада на мне, дзеля яго Бог памазаў мяне дабравесціць жабракам, паслаў мяне вызгаяць сэрцы ў скрусе, аб'явіць палонным вызваленне і сляпым вяртанне зроку … іх назавуць народам праведным, садам Гасподнім у славу яго, і забудуюць пустэчы вечныя, раней запусцелыя, адновяць разбураныя гарады, апусцелыя з даўнейшых родаў». Князь Уладзімір з гэтага прароцтва зразумеў міласць Боскую да сябе і пачаў шукаць адпаведнае месца, дзе б паставіць горад. Зямля ж гэтая запусцела за 80 год пасля Рамана. А цяпер Бог адрадзіў яе міласцю сваёю. І паслаў Уладзімір разумнага мужа па імені Алекса, які пры бацьку яго многія гарады пабудаваў, з тубыльцамі ў чаўнах уверх па рацэ Лосне, каб знайсці, дзе паставіць горад. Той знайшоў такое месца, прыехаў да князя і пачаў расказваць. Князь жа сам паехаў з баярамі і слугамі і ўпадабаў тое месца над берагам ракі Лысны. Расчысціў яго і потым зрубіў на ім горад і назваў яго Камянец, таму што зямля была камяністая»[1]. Назва горада можа паходзіць і ад «стоўпа каменнага» (бо камянёў на навакольным полі было не так ужо многа). Згодна з Галіцка-валынскім летапісам час пабудовы вежы — паміж 1276 і 1288 гадамі. Заснавальнік любіў бываць у сваім новым замку, досыць непрыступным і блізкім да пушчы. Магчыма, і будаваў ён нечуваную вежу на краі княства не толькі дзеля абароны ад агрэсіўных ятвягаў, але і як рэзідэнцыю, якая стаіць далёка ад небяспечных татараў. У 1287 г. Уладзімір Васількавіч, ужо хворы, каб ухіліцца ад сустрэчы з татарамі, з Любомля прыехаў у Бярэсце і, прабыўшы там два дні, паехаў у Камянец. «І тут, у Камянцы, ён ляжаў у хваробе сваёй, і сказаў ён княгіні сваёй і слугам: «Як толькі пойдзе гэтая погань (Целябуга з татарамі. — *А.Я.*) з нашай зямлі, тады паедзем у Любомль». Неўзабаве прыехалі да яго ў Камянец слугі і апавялі, што брат яго Мсціслаў раздае сваім прыхільнікам яго сёлы. Уладзімір паслаў пісьмо брату з папрокамі, і прыехаў да яго пасол Мсціслава выказаць пакорлівасць. Супакоены Уладзімір паехаў з Камянца ў Рай (горад) і там прадыктаваў завяшчанне, у якім, дарэчы, упершыню згаданы Кобрын.

Пасля смерці Уладзіміра Васількавіча (1289 г.) пачалася барацьба паміж братам яго Мсціславам і пляменнікам Юрыем за спадчыну (сваіх дзяцей у князя не было). Мсціслаў хацеў паслаць засады (гарнізоны) у Бярэсце, Камянец і Бельск, аднак там ужо была засада Юрыя. Выявілася, што калі Уладзімір быў яшчэ хворы, берасцяне паехалі да Юрыя і цалавалі крыж, кажучы: «Як толькі не



2

будзе твайго дзядзькі, то мы твае і горад твой, а ты наш князь». Дазнаўшыся пра смерць Уладзіміра, Юрый уехаў у Бярэсце і пачаў княжыць па радзе сваіх маладых баяр і берасцян. Калі ж Мсціслаў прыгразіў паклікаць на дапамогу татар, Юрый ад'ехаў з Бярэсця, «абрабаваўшы ўсе дамы свайго дзядзькі, і не засталося каменя на камені і ў Бярэсці, і ў Камянцы, і ў Бельску». Мсціслаў прыехаў у Бярэсце, але прабыў там нядоўга, а паехаў у Камянец і Бельск, паставіў там засады, і рады былі гэтаму ўсе мясцовыя жыхары.

У 1-ай палове XIV ст. Камянец увайшоў у Вялікае княства Літоўскае і пры падзеле спадчыны Гедыміна дастаўся Кейстуту. Горад моцна пацярпеў ад набегаў тэўтонскіх комтураў у 1375, 1378 и 1379 гг. Зяць Кейстута мазавецкі князь Януш у 1382 г. заняў Драгічын, Мельнік, Сураж і Камянец, нібыта як пасаг жонкі Дануты. У 1383 г. Ягайла пасля тыднёвай аблогі заняў замак, але неўзабаве ўступіў Камянец і ўсю берасцейскую зямлю Вітаўту. У часы Крэўскай уніі і барацьбы Вітаўта за суверэнітэт ВКЛ Ягайла заняў Камянец і паставіў у ім польскі гарнізон (1389 г.). Пасля прымірэння Ягайла і Вітаўт часта сустракаліся тут для нарады і палявання ў пушчы. Праз Камянец пралягаў важны шлях з Кароны (Кракаў—Люблін) у ВКЛ — на Гародню, Вільню і далей на ўсход; бывалі ў замку паслы з Еўропы, Ноўгарада і Пскова; у 1409 г. легат папы Аляксандра V уручыў тут каралю Ягайле булу пра нелегітымнасць двух антыпапаў; сюды на сустрэчу з Вітаўтам прыязджаў у 1421 г. пасол англійскага караля Жыльбер дэ Ланua. У 1526 г. пра горад Камянец «з мураванай вежай у драўляным замку» згадвае ў сваіх «Запісках» Сігізмунд Герберштэйн, пасол германскага імператара ў Масковію.

Дзякуючы свайму замку, Камянец ад 1413 г. з'яўляўся цэнтрам павета ў Троцкім і Падляшскім ваяводствах, але ў 1569 г. увайшоў у



Берасцейскі павет і ваяводства. Горад і замак так моцна пацярпелі ад вайны ў сярэдзіне XVII ст., што сейм у 1661 г. вызваліў Камянец ад падаткаў на 4 гады. Пасля маскоўска-шведскага нашэсця замак страціў ваеннае значэнне, застаўшыся толькі дваром — цэнтрам староства. Інвентары Камянецкага замка XVIII ст. сведчаць пра пакінутасць вежы. Уезд у замак з боку горада вёў праз браму на вале, далей па мосце цераз роў, праз другую браму, па баках якой знаходзіліся карцары (замак выконваў і функцыі вязніцы). За ровам па перыметры двор быў абнесены вастраколам. Усе пабудовы былі драўлянымі, шкло ў вокнах апраўлена рамкамі з дрэва і волава, камін з ляпнінай, пры ім печ кафельная з арламі... «За межамі замка на вале вежа, пад якой ёсць сховішча з дзвярамі ў яго на верхні ярус... Ніжні ярус без дзвярэй і якога-небудзь закрыцця, гэтая вежа зверху замуравана, у сярэдзіне паруйнавана, у вокнах няма шкла» (1728 г.).

У 1757 г., калі староства дзяржаў гетман Міхал Казімір Радзівіл, на дзядзінцы ўжо стаяў драўляны палац, нядаўна пабудаваны, з шасцю пакоямі, сталовай і залай, у якой па вуглах стаялі два каміны-шкафчыкі, а ў кабінетах — чатыры круглыя печкі. Топка печаў знаходзілася пад залай у падвале са скляпеннямі. (У 1896 г. на месцы замка стаялі будынкі мужчынскага і жаночага вучэльняў. Калі пры будоўлі капалі ямы для іх фундаментаў, знайшлі пад зямлёй цагляную муроўку. Напэўна, гэта быў падвал палаца, згаданага вышэй. Сярод жыхароў існавала паданне, што паміж палацам і вежаю ёсць падземны ход.)

Замак быў абведзены ровам і штакетнай агароджай. «Замкавая вежа круглая, высокая, мураваная, мае пад сабою склеп,

напалову са скляпеннем. Да ўвахода ў склеп прыбудаваны тамбур з распілаваных бярвёнаў, з уваходнымі дзвярамі на завесах. Уваход у склеп ішоў праз такія ж дзверы, толькі з жалезнымі кратамі. Да вежы нядаўна прыбудаваны сені з абчэсанага дрэва, з дзвярамі і падлогай з дошак, і ў саму вежу вядуць такія ж сасновыя дзверы з плах, якія маюць шэсць фрамуг і падлогу з дошак». Пра верхнія ярусы ў інвентары 1757 г. не гаворыцца ні слова, відаць, яны ўжо ніяк не выкарыстоўваліся. Урэшце, у 1761 г. у Камянцы стаяў полк драгунаў, і цікаўны Удальрык Радзівіл, які служыў у ім, з афіцэрамі назіраў рэдкую астранамічную з'яву — праходжанне Венеры праз дыск Сонца. Тады яшчэ ніхто не зацікавіўся паходжаннем і гістарычнай каштоўнасцю вежы.

Апошні вядомы інвентар Камянецкага замка за 28 снежня 1822 г. апісвае радавы скарбавы двор, не згадваючы ні пра валы, ні пра равы. Вежа аказалася ўжо зусім за яго межамі, з яе пачынаюць здабываць цэглу. «На правым баку за замкавым дзяцінцам стоўп, ці старажытная вежа, з цэглы вымуравана, вакол яе ўнізе штабель вынятай цэглы, пад ёю падвал з новым прыбудаваным тамбурам з сасновага дрэва, накрытым дранкай, з лесвіцай, умураванымі вушакамі і дзвярамі. С другога боку вежы зроблены склад... Наверсе вежы скляпенне з цэглы дзіравае. Унізе — лесвіца для магчымасці рамонту ўверсе гэтага будынка».

Здзіўляе, што ў 1826 г., адразу пасля драматычнага ўступлення на трон, імператар Мікалай I загадаў не разбураць старажытныя пабудовы, у прыватнасці замкі, аднак і рамантаваць толькі вароты ў іх ці патрэбныя памяшканні. Міністэрства ўнутраных спраў запатрабавала ад губернатараў звесткі пра наяўнасць такіх старажытнасцяў. Гродзенскі грамадзянскі губернатар К.В. Максімовіч накіраваў запросы павятовым спраўнікам. 3 лістапада 1827 г. атрымана данясенне з Брэста «аб наяўнасці муравана-га стоўпа ў Камянцы, які належаў графам Веліогурскім». Спраўнік абме-







раў стоўп і паведаміў, што вышыня яго 35,5 аршына, акружнасць — 48 аршынаў, таўшчыня сцен 3 аршыны. «Цэгла зусім не папсутая, і паколькі (стоўп) збудаваны са старажытнага добрага матэрыялу, то цэгла амаль скамянела, і гэты стоўп вельмі трывалы, а толькі як у сярэдзіне было некалькі паверхаў, то верхнія падлогі пашкоджаны».

Спраўнік не змог высніць, калі і для чаго пабудаваны «слуп, ці вежа», якая здаўна знаходзіцца ў Камянцы, але даведаўся, што калі ў мястэчку была Магдэбургія, то гэты слуп у якасьці герба быў паказаны на пячатцы. Мясцовыя жыхары выказвалі розныя версіі. Адны казалі, што вежа пабудавана нейкім удзельным князем, каб у яе пасадзіць за злачынствы свайго роднага брата, і другая такая ж нібыта была пабудавана ў Камянцы-Падольскім ці ў Хэлме для арышту другога брата-злачынцы. Іншыя лічылі, што калі ў тутэйшых месцах жылі ятвягі, вежа ўжывалася для абароны і ў ей маглі змяшчацца некалькі соцень чалавек на адным паверсе, а іх было тры. «Каля той вежы ёсць замак, пабудаваны з дрэва на насыпным вале, з аднаго боку ракою і з трох бакоў равамі абведзены, і ў часы бітваў, калі замак быў абложаны, то гарнізон, які абараняў мястэчка, размяшчаўся ў такіх пабудовах і адтуль праз вакенцы кідаў патрэбныя для паратунку снарады». У дакладзе спраўніка змяшчаецца гіпотэза паходжання назвы Белавежскай пушчы ад назвы вежы, якая калісьці называлася Бела Вежа з-за таго, што яна была пабелена вапнаю, «чаго і зараз засталіся на ёй сляды».

У 1837 г. Ігнат Кулакоўскі прысылае губернатару ў Гродне пераклад з французскай мовы «Стоўп Камянца Літоўскага» і карціну з выявай вежы. У тэксце ўказана дата заснавання Камянца — 1276 г. У «Гродзенскіх губернскіх ведамасцях» за 1845 г. быў надрукаваны артыкул «Вежа ў Камянцы Літоўскім», падпісаны «Іг. К.». Аўтар (Ігнат Кулакоўскі) пісаў, што ў 1837 г., калі ён быў у Пецярбургу і Маскве, прагледзеў у музеі Румянцава Валынскі летапіс, знойдзены ў 1809 г. Далей падаецца летапіснае апавяданне пра заснаванне Камянца, але выказаны наіўны матыў пабудовы стоўпа: на памяць аб знаходжанні тут князя. Паведамляецца, што ўнутры яшчэ засталіся рэшткі драўляных ступеняў, а ад паловы вышыні(?) вядуць уверх ступені, выкладзеныя ў сценах. Каменныя скляпенні з дзіркамі, у 1834 г. яшчэ быў наверсе купал, таксама дзіравы. Унізе вежы знаходзіліся прасторныя паграбы.

У тым жа годзе гродзенская будаўнічая камісія накіравала памочніка архітэктара Калянкевіча ў Камянец з заданнем апісаць вежу. Ён абмежаваўся кароткай справаздачай: вежа мае пяць паверхаў, драўляныя перакрыцці і цаглянае скляпенне ўверсе зусім абваліліся.

У кнізе «Старажытная Польшча», надрукаванай у Варшаве ў 1846 г., Міхал Балінскі сціпла апісаў стан Камянца і вежы: «…цяпер кволае мястэчка, толькі адзін гэты стоўп, без ужытку ўжо амаль пяць вякоў, тырчыць сваімі руінамі над грудай нізкіх халуп. Унутры гэтага самавітага помніка захаваліся нават рэшткі дубовых



**Историческій памятникъ Гродненской губ. XII в.**

**Бѣлая Каменецкая Вѣжа**—„столпъ каменъ высотою 17 саженей, подобенъ удивленію всѣмъ зрящимъ нань“ (Ипат. лѣт. 1275-6 г.), выстроенная Волынскимъ княземъ Владиміромъ Васильковичемъ для защиты основаннаго имъ г. Каменца отъ нападенія ятвяговъ.



Башня XIII в. въ м. Каменцѣ-Литовскомъ (въ древности Каменецъ Русскій) близъ гор. Бреста, построенная княземъ Володиміромъ Васильковичемъ.

сходаў Бог ведае якіх часоў, але ад паловы вышыні ідуць уверх ступені ў сцяне; скляпенні, хоць і дзіравыя, як рыбалоўная сетка, але яшчэ трымаюцца, пад вежай прасторныя падвалы»[2]. З Балінскім аглядаў і абмяраў вежу суседні памешчык І.А. Херсонскі, які зрабіў прыгожы малюнак. Апісанне Гродзенскай губерні М. Баброўскага (1862 г.) таксама адзначае ў вежы мураваныя ступені і дубовыя бэлькі.

Пытанне аб рамонце вежы ўзнікла ў 1853—1866 гг., магчыма, пад уплывам сумнага лёсу Каложскай царквы. У гэты час Камянецкі двор належаў памешчыку Касаржэўскаму. У гродзенскай будаўнічай камісіі знайшлі план вежы, невядома калі і кім начэрчаны, але ніякія працы не выконваліся.

У 1869—1881 гг. улады зноў зацікавіліся Камянецкай вежай. Звесткі з губернскай будаўнічай камісіі не даюць нічога новага ў параўнанні з ранейшымі; адзначана, што мясцовыя жыхары называюць вежу «стаўпом», а таксама, што пограб унізе пад ёю быў перакрыты скляпеннямі. Тады ж у Пецярбургу з'явілася публікацыя І.І. Сразнеўскага, які пераказаў пісьмо Будзіловіча за 2 жніўня 1864 г.


9

з апісаннем Камянца і вежы. Будзіловіч (яшчэ студэнт Пецярбургскага універсітэта, пазней вядомы славяназнаўца) даслаў Сразнеўскаму малюнкі драўлянай царквы і вежы, а таксама свае назіранні. «Таўшчыня зубчатых сцен вежы (1 сажань і 2 вяршкі) дае падставу лічыць, што яна з'яўлялася ў свой час крэпасцю. Вышыня вежы 12 сажняў 2 аршыны, дыяметр 6 сажняў. Ад паўночнага ўсходу яе відаць за 15 вёрст. Гара на беразе ракі па ўсіх прыкметах насыпная: пра гэта сведчыць правільны круглы выгляд і круты пад'ём на 2 сажані. У вежы 4 паверхі; 1-ы захаваў скляпеністую столь, іншыя — згнілыя драўляныя бэлькі. Вокны вузкія (4 вяршкі), даўжынёю ў рост чалавека, толькі на 4-ым паверсе чатыры вялікіх акны ў чатыры бакі свету і пятае вузкае. Уверсе скляпенне, сцены закончаны тупымі зубцамі. Зверху скляпенне было пакрыта пластом пяску, зарасло пустазеллем і дрэвамі. Унізе вялікае каменнае сутарэнне. Пабудавана з чырвонай цэглы; звязка і вапнавая цэгла так зацвярдзелі за вякі, што ўвесь стоўп нібы адзін вялікі камень. Памешчык, нябожчык Касаржэўскі, спрабаваў разбіць на цэглу, але не змог. Цяпер стоўп стаіць пусты, ні на што не годны». Мясцовыя жыхары

ўспаміналі, што яшчэ гадоў дзесяць назад у нядзелю і ў святы над стаўпом вывешвалі харугву. Пакуль ішло богаслужэнне, нельга было пачынаць гандаль на рынку. Апавядалі, нібыта будавалі стоўп веліканы, стоячы на каленях; казалі таксама, што стоўп — гэта надмагільны помнік велікану. Але нейкі археолаг паведаміў Будзіловічу, што стоўп збудавалі валынскія князі ў XIII ст. як пагранічную крэпасць.

У 1881 г. у «Литовских епархиальных ведомостях» святар Балабановіч апісаў стан Камянецкай вежы 1879 г. Паверхня насыпнога ўзгорка няроўная, так што помнік «стаіць у катлавіне, у якую часткова сцякае вада пры раставанні снегу ці дажджы. Вышыня яго 16 сажняў, дыяметр больш за 6. Цэгла трох колераў: цёмна-жоўты, цёмна-чырвоны, цёмна-буры. Сцены бура-чырвонага колеру. Унізе, каля ўвахода ў другі паверх, яны выкрышыліся, асабліва ў самай ніжняй частцы. Гэтыя выемкі глыбінёй у дзве з паловай цагліны ўтварыліся ад дзеяння стоку вады і чалавечых рук. Тупыя зубцы ўверсе параслі зеллем, часткова паападалі. Верхняе скляпенне, па звестках жыхароў, упала некалькі год таму, але не раней 1864 г. Унутры ніякіх слядоў ад паверхаў, толькі выемкі, дзе былі бэлькі, груды пабітай цэглы ляжаць на самым ніжнім скляпенні». У час паўстання 1863 г. у вежы быў ваенны цэйхгауз, нават стаялі гарматы.

Балабановіч налічыў у вежы чатыры паверхі, у тым ліку падвал з ацалелым скляпеннем і круглай адтулінай пасярэдзіне. Уваход у падвал не зачыняўся. Уваход на другі



паверх па загаду станавога прыстава быў забіты дошкамі, але дзеці ўсё-такі цягалі адтуль цэглу. Аўтар заўважыў сляды тынку ўнутры верхняга паверха. Ён апісаў размяшчэнне акон па паверхах і іх форму. «Гадоў 20 таму (у сярэдзіне XIX ст.) вежа яшчэ была абведзена агароджаю, ад якой не засталося і следу. Цяпер вакол вежы гразь і гной, з-за чаго нязручна нават яе агледзець. Нячыстыя жывёлы знаходзяць прытулак у паграбе і выкрышаных месцах сцен знадворку».

Камянецкім дваром, адпаведна і вежай, ад 1798 г. валодаў граф Вяльгорскі, затым Касаржэўскі, пасля 1863 г. — рускі памешчык Іваноў. У 1879 г. двор быў куплены на імя Штарка, інспектара народных вучылішчаў, і Балабановіч баяўся, што стоўп неўзабаве могуць ператварыць у свіран або склад. Утварылася грамадская камісія для захавання старажытнага помніка, якая мела намер аднавіць верхняе скляпенне вежы і абгарадзіць тэрыторыю, але гэтага не адбылося.

У 1899 г. па просьбе Імператарскай археалагічнай камісіі акадэмік архітэктуры Ул.В. Суслаў даследаваў Камянецкую вежу і склаў праект яе рэстаўрацыі. Імператар Мікалай II наказаў абмежавацца неабходнымі работамі: 1) аднавіць знешнюю абліцоўку сцен і вакон-ных праёмаў там, дзе яна пашкоджана; 2) паправіць зубцы па чарцяжу акадэміка Суслава и накрыць іх каменнымі плітами; 3) унутры вежы наверсе зрабіць канічны дах, які не павінен узвышацца над зубцамі і аснова якога павінна знаходзіцца на ўзроўні паміж






зубцамі для стоку вады. Работы былі выкананы ў 1903 г.: закладзены цэглай разбураныя ўчасткі сцен і зубцоў, пакладзены драўляныя бэлькі і перакрыцці паміж паверхамі. 10 тысяч штук цэглы для рэстаўрацыі вырабіў селянін Матыкальскай воласці Сямён Дранюк. Муроўку выканаў майстар з Гродна Адам Арцішэўскі[3]. Апрача таго, быў адкінуты ад сцен вежы слой зямлі глыбінёю 3 м і абкладзена каменнямі паверхня вала, які пры гэтым утварыўся. Такім чынам, адкрыўся знадворку ніжні ярус вежы, які ў інвентарах лічыўся падвалам (мяркуючы па камянях у сценах унутры, ён і служыў складам-«лядоўняй» для захоўвання прадуктаў).

Вежы накшталт Камянецкай былі таксама ў Бярэсці і Гродне; дзве захаваліся каля Холма, аднак яны значна саступаюць Камянецкай па памерах і архітэктурна-будаўнічых якасцях. У муроўцы Камянецкага стоўпа, у адрозненне ад Холмскіх, не скарыстаны палявы камень. Для будоўлі спатрэбілася амаль паўмільёна цаглін памерамі каля 26,5х13,5х8 см, цёмна-чырвонага і жаўтаватага колеру. Для лепшай звязкі з растворам на адной плоскасці цэглы зроблены падоўжныя раўчукі (нібы ад пальцаў рукі). Якасна выканана і муроўка на вапнавым белавата-шэрым растворы, таўшчыня швоў 2—4 см. Для звязвання радоў цэглы ў іх чаргуюцца два «лажкі» і адзін «тычок» (балцкая ці вендская муроўка). У сценах вежы за шмат вякоў не адбылося значных страт ад прыродных уздзеянняў. Сцены ўверх становяцца крышку танчэйшымі, утвараючы знадворку невялікі нахіл да вертыкальнай восі. Яны не маюць

ніякіх гарызантальных ці вертыкальных падзелаў, прарэзаны толькі вокнамі-байніцамі, толькі ў самым версе вежа аздоблена поясам з чатырох радоў парэбрыка. У першым ярусе — дзве байніцы, у другім і трэцім — па тры, у чацвёртым — дзве і шырокі праём са сціплым гатычным парталам. Гэта, напэўна, старажытны ўваход, звернуты ў бок ракі, да яго пазней дадалі балкон. У пятым ярусе чатыры байніцы з раскрыццём унутр і на двор, а паміж імі плоскія нішы з паўцыркульным верхам, калісьці тынкаваныя і пабеленыя. Ступені ў сцяне пачынаюцца пасля 3-га яруса і выводзяць на верх вежы з 14 зубцамі, у іх невялікія адтуліны, якія служылі для назірання ў час варожага абстрэлу. Знадворку і ўнутры ў муроўцы сцен засталося мноства рэгулярных паглыбленняў, у якіх мацаваліся будаўнічыя рыштаванні. Пры археалагічных даследаваннях М.А. Ткачовым быў выяўлены пад вежай фундамент, раней невядомы, глыбінёй 2,3 м і дыяметрам каля 16 м з палявога каменю і засыпкай чыстым дробным пяском[4]. Вежа першапачаткова была падзелена ўнутры на пяць ярусаў дошкавымі перакрыццямі па драўляных бэльках у рознай колькасці. Паміж 2-ім і 3-ім ярусамі перакрыцце трымалася на двух узаемна перпендыкулярных радах бэлек у разліку на большую нагрузку. Невядома, калі над двума ніжнімі ярусамі былі выкладзены скляпенні; хутчэй за ўсё, на схіле готыкі, а не ў XIX ст., як лічыў М.А. Ткачоў. Ён жа слушна сцвярджаў, што вежу не бялілі да 1950-ых гг. і не з ёю звязана назва Белавежскай пушчы.

Камянецкая вежа-данжон уяўляе сабою унікальны помнік ваеннага дойлідства на ўсходнеславянскіх землях. Узнікнуўшы ў Нармандыі, гэты тып абарончага будынка ў XI—XIII стст. распаў-


19



сюдзіўся па Заходняй Еўропе, дасягнуўшы зямель Заходняй Русі. Строгі масіўны воблік вежы нагадвае раманскую архітэктуру, але стрэльчатыя і трохлопасцевыя завяршэнні праёмаў, а таксама яе стромкасць даюць падставы прылічваць яе да самых ранніх помнікаў готыкі на беларускіх землях. Ад 1950 г. вежа з'яўляецца філіялам Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея.

Гісторыя Камянца звязваецца ў нашым уяўленні найперш са знакамітай вежай, менш вядомы падзеі яго культурнага і царкоўнага жыцця, пачатак якому паклаў князь Уладзімір Васількавіч, празваны Філосафам, які заснаваў тут першую царкву Дабравешчання і забяспечыў яе іконамі і літургічнымі кнігамі. Апісанне Камянца 1562 г. указвае ў ім чатыры царквы: Дабравешчання, Уваскрэсення, Нараджэння Хрыстова і Святога Сімяона. Дабравешчанская перастала існаваць у 1654 г. Царква Нараджэння Хрыстова характарызуецца ў 1579 г. як вельмі састарэлая, але з іканастасам. У 1797 г. царква згарэла ў час пажару мястэчка, захавалася толькі цудатворная ікона Маці Божай «древнейшей прекрасной живописи» (тыльны бок ліпавай дошкі абгарэў, але лікі засталіся непашкоджанымі). Прыхаджане сумесна набылі багатую сярэбраную пазалочаную шату і вялікія вянцы. Пасля скасавання прыхода ў 1835 г. ікона была перанесена ў Сімяо-

наўскую царкву і змешчана на горнае месца. Народ асабліва шанаваў гэту каштоўную святыню[5].

Уваскрэсенская царква ўпершыню згадваецца ў 1562 г. У 1637 г. кіеўскі мітрапаліт Пётр Магіла заснаваў манастыр з царквою Уваскрэсення. Пабудавалі царкву мяшчане, служылі ў ёй толькі манахі, вярхоўная ўлада належала кіеўскаму мітрапаліту; першым ігуменам быў Макарый Такарэўскі. Зямельную маёмасць манастыра пацвярджалі каралі Уладыслаў IV Ваза (1639 г.), Міхал Карыбут Вішнявецкі (1670 г.), Ян III Сабескі (1676 г.). Манастыр згадваецца апошні раз у 1726 г. Храм, які стаяў на Літоўскай вуліцы, да 1782 г. так збуцвеў, што літургічныя прылады з яго былі перанесены ў царкву Святога Сімяона, але да канца XVIII ст. адноўлены, а ў 1835 г. прыпісаны да Сімяонаўскай царквы. Пахіленую ад старасці царкву апісаў Будзіловіч у лісце да І.С. Сразнеўскага: «Я не знаўца тэорыі мастацтва і не магу вызначыць, да якога стылю належаць адмысловы насценны жывапіс і абразы гэтай царквы, але і для нявопытнага вока яна ўяўляе штосьці асаблівае, рэдкасць у мясцовым краі. Іканастас у ёй невялікі і царскія вароты вельмі малыя. Намесная ікона Спасіцеля, відавочна, падноўлена няўдала. Храмавы абраз Уваскрэсення досыць арыгінальны: унізе мноства дэманаў — у свіных і іншых выявах. Затое жывапіс усходняй запрастольнай сцяны выдатны. Дванаццаць апосталаў ва ўвесь рост і дзесяць святаў,





усе са славянскімі надпісамі, добра захаваліся і дасканалага жывапісу. Многа абразоў перанесена з Уваскрэсенскай у новую Сімяонаўскую, усе цудоўнага жывапісу. Ды яшчэ пры ўваходзе ў старую царкву ўражваюць два абразы рэдкім майстэрствам жывапісу. Сцэны размаляваны таксама досыць па-майстэрску, але ўжо ў часы добрай памяці Уніі — пад моцным уплывам лацінскага жывапісу. Святыя ў выглядзе манахаў пад кронамі дрэваў моляцца з незвычайнай пакорай і горка плачуць пра салодычы раю — гэта кантраст праваслаўнай выяве сузіральнага пустэльніка, хаця б св. Ануфрыя, яго абраз таксама ў царкве. Шаты святых усе звычайныя, часам дапасаваныя да палесцінскага клімату, апрача шышака, шчыта і кап'я, досыць своеасаблівых. Свецкага жывапісу накшталт партрэтаў я не знайшоў, было калі зняць». Турбуючыся, што царкву пераробяць, Будзіловіч пісаў: «Сумна думаць, что выдатны, хоць крыху пацямнелы, жывапіс можа трапіць пад руку якога-небудзь правінцыяльнага маляра, які не пасаромеецца перарабіць усё на свой густ, ці што даўніна трапіць на паддашак...»[6]. На жаль, прадказанне Будзіловіча збылося: ад Уваскрэсенскай царквы нічога не захавалася.

З 1835 г. у Камянцы застаўся адзіны Сімяонаўскі прыход. У 1759 г. на месцы

старой царквы была пабудавана новая, з двухвежавым фасадам і купалам. 29 верасня 1839 г. яна стала саборам. Храмавы абраз іканастаса ў канцы XIX ст. намаляваў віленскі мастак І.П. Трутнеў. Звон вагою каля 500 кг з выявамі Спаса, Маці Божай і Святога Мікалая быў выліты ў 1887 г. на заводзе Самгіна ў Маскве. У 1912—1914 гг. па праекту архітэктара В.А. Срока на высокім узгорку пабудаваны новы мураваны Свята-Сімяонаўскі сабор з пяццю купаламі і высокай шатровай званіцай над бабінцам[7]. У 1920-ыя гг. жыхарка вёскі Пруска Феадосія Піліпаўна Трайчук у памяць сына-лётчыка, які загінуў ў 1918 г. у Францыі, і рэгент хору Сямён Паўлавіч Карнялюк купілі ў храм трох'ярусны разны дубовы іканастас, выкананы ў 1912 г. для бакавога прыдзелу сабора Аляксандра Неўскага ў Варшаве.

Са старажытным Сімеонаўскім храмам, напэўна, звязана выдатная Чэцця-Мінея 1489 г.[8], перапісаная сынам святара Бярозкаю з Навагрудка (зараз знаходзіцца ў Кіеве). На адной з яе старонак надпіс кінаварам паведамляе месца напісання, імя і паходжанне пісца: «Списана бысть книга сия, нарицаемая четья въ граде оу камянци при великомъ короли андреи в лето 6997, а тогды держалъ от короля камянец панъ третина кухмистръ, а писал сию книгу березка с Новагородка с Литовского попович попа литовоцкого с(ы)нъ Семионовъ Долъбнича и в митрополии а п(и)сал есми от початка книги сам от дошки до половины от с(вя)того семиона до сорок с(вя)тых...». Дзіўным здаецца ў надпісе згадка пра караля Андрэя, таму што каралём у 1489 г. быў Казімір Ягелон. Але запіс у кароткай «Хронікі







Вялікага княства Літоўскага» (Альшэўскі кодэкс): «...король Андрей Казимир умер лета (от) божьего нарожения 1500» — паказвае нам, што Казімір Ягелон меў і другое імя. Вядомы кіеўскі прафесар М.І. Пятроў лічыў, што ў надпісе маецца на ўвазе Камянец Літоўскі (знойдзены рукапіс недалёка адсюль, у Седлецкай губерні). Ён адзначыў у царкоўнаславянскім тэксце наяўнасць паўднёварускіх (украінскіх) і беларускіх слоў, што характэрна для Брэсцкага рэгіёна. Бясспрэчна лічыў рукапіс «заходнерускім» А.І. Сабалеўскі. На прызначэнне кнігі для нейкай Сімеонаўскай царквы, якая знаходзілася калі не ў Камянцы, то не далее чым у Брэсце, дзе здаўна існаваў праваслаўны манастыр Святога Сімяона Стоўпніка, можа сведчыць і тое, што бацьку пісца, святара царквы ў Літоўцы (пад Навагрудкам), звалі Сімяон Доўбніч, а пачаў Бярозка працу над рукапісам у дзень Святога Сімяона.

Валынскі летапісец пранікнёна падвёў вынік жыцця князя Уладзіміра Васількавіча, які памёр у Любомлі 10 снежня 1289 г.: «Ён быў многаразумны кніжнік і філосаф, якога не было на ўсёй зямлі і пасля яго не будзе. Тым, хто прасіў, даваў, голых адзяваў, даўжнікоў выкупляў... за гады княжання свайго многія гарады збудаваў пасля бацькі свайго. Пабудаваў ён Бярэсце, а за Бярэсцем пабудаваў горад на пустым месцы, названым Лестне, і даў яму імя Камянец... У ім ён пабудаваў каменную вежу вышынёю ў 17 сажняў, вартую

здзіўлення ўсіх, хто яе бачыць. І паставіў царкву Благавешчання Святой Багародзіцы, і аздобіў яе іконамі залатымі, і скаваў сярэбраныя сасуды служэбныя і паклаў у ёй Евангелле-апракас, акаванае серабром, і Апостал-апракас, і парамійнік, і саборнік айца свайго, і крыж уздвізальны ўклаў...». Такім чынам, заснаваўшы Камянец, Уладзімір Васількавіч патурбаваўся не толькі пра яго абарону, але і пра царкоўна-духоўнае развіццё яго жыхароў. Не дайшлі да нас кнігі і іконы, падараваныя князем, але на месцы яго царквы ўзвышаецца Свята-Сімяонаўскі сабор, а Камянецкі стоўп, як і сем стагоддзяў назад, уражвае наведвальнікаў простай і велічнай архітэктурай.







Галицко-волынская летопись 1276 г. сохранила прекрасный рассказ об основании Каменца волынским князем Владимиром Васильковичем: «И потом вложил Бог благую мысль в сердце князю Владимиру, задумался он, чтобы где-нибудь за Берестьем поставить город. И взял он книги пророков, мысленно говоря себе: «Господи Боже, сильный и всемогущий, своим словом созидающий и разрушающий, что ты, Господи, укажешь мне, грешному рабу своему, то я и сделаю». Раскрыл книгу, и выпало ему пророчество Исайи: «Духъ Господень на мне, ради его Бог помазал меня благовествовать нищим, послал меня исцелять сокрушенные сердца, возвестить пленникам освобождение и слепым прозрение... их назовут народом праведным, насаждением Господним во славу его, и застроят пустыни вечные, прежде запустевшие, возобновят разоренные города, запустевшие с древних родов». Князь Владимир из этого пророчества понял милость Божию к себе и начал искать подходящее место, где бы поставить город. Земля же эта опустела за 80 лет после Романа. Ныне же Бог возродил ее милостью своею. И послал Владимир умного мужа по имени Алекса, который при отце его многие города построил, с местными жителями в челнах вверх по реке Лосне, чтобы найти, где город поставить. Тот нашел такое место, приехал к князю и начал рассказывать. Князь же сам поехал с боярами и слугами и полюбил то место над берегом реки Лысны. Расчистил его и потом срубил на нем город и назвал его Каменец,

потому что была земля камениста»[1]. Название города может происходить и от «столпа каменна» (камней на окрестных полях было не так уж много).

Согласно Галицко-волынской летописи, время постройки башни — между 1276 и 1288 гг. Основатель любил бывать в своем новом замке, достаточно неприступном и близком к пуще. Может, и строил он невиданную до того башню на краю княжества не только для защиты от агрессивных ятвягов, но и как резиденцию, удаленную от докучливых татар. В 1287 г. Владимир Василькович, уже больной, чтобы избежать встречи с татарами, из Любомля приехал в Берестье и, пробыв там два дня, поехал в Каменец. «И тут, в Каменце, он лежал в болезни своей, и сказал он княгине своей и слугам: «Как только уйдет эта погань (Телебуга с татарами. — А.Я.) из нашей земли, тогда поедем в Любомль». Вскоре приехали к нему в Каменец слуги и рассказали, что брат его Мстислав раздает своим сторонникам его села. Владимир послал письмо с упреками, и приехал к нему посол Мстислава с выражением покорности. Успокоенный Владимир поехал из Каменца в Рай (город) и там продиктовал завещание, в котором впервые упомянут Кобрин.

После смерти Владимира Васильковича (1289 г.) началась борьба между его братом Мстиславом и племянником Юрием за наследство (своих детей у князя не было). Мстислав хотел послать засады (гарнизоны) в Берестье, Каменец и Бельск, однако там уже есть засада Юрия. Оказалось, что когда еще был болен Владимир,







берестьяне поехали к Юрию и целовали крест, говоря: «Как только не станет твоего дяди, то мы твои и город твой, а ты наш князь». Узнав о смерти Владимира, Юрий въехал в Берестье и стал княжить по совету своих молодых бояр и берестьян. Когда Мстислав пригрозил призвать на помощь татар, Юрий уехал из Берестья, «пограбив все дома дяди своего, и не осталось камня на камне и в Берестье, и в Каменце, и в Бельске». Мстислав приехал в Берестье, но пробыл там недолго, а поехал в Каменец и Бельск, поставил там засады, и рады были этому все местные жители.

В 1-й половине XIV в. Каменец вошел в Великое княжество Литовское, а при разделе наследства Гедимина достался Кейстуту. Город сильно пострадал от набегов орденских комтуров в 1375, 1378 и 1379 гг. Зять Кейстута мазовецкий князь Януш в 1382 г. занял Дрогичин, Мельник, Сурож и Каменец, как мнимое приданое жены Дануты. В 1383 г. Ягайло после недельной осады занял замок, но вскоре уступил Каменец и всю берестейскую землю Витовту. В период Кревской унии и борьбы Витовта за суверенитет ВКЛ Ягайло занял Каменец и поставил в нем польский гарнизон (1389 г.). После примирения Ягайло и Витовт часто встречались здесь для совещаний и охоты в пуще. Через Каменец проходила важная дорога из Короны (Краков—Люблин) в ВКЛ — на Гродно, Вильно и далее на восток; бывали в замке послы из Европы, Новгорода и Пскова; в 1409 г. легат папы Александра V вручил здесь польскому королю

буллу о нелегитимности двух антипап; сюда на встречу с Витовтом приезжал в 1421 г. посол английского короля Жильбер де Ланнуа. В 1526 г. о городе Каменце «с каменной башней в деревянном замке» упоминает в своих «Записках» Сигизмунд Герберштейн, посол германского императора в Московию.

Благодаря своему замку, Каменец с 1413 г. был центром повета в Трокском и Подляшском воеводствах, но в 1569 г. вошел в Берестейский повет и воеводство. Город и замок так сильно пострадали в войну середины XVII в., что сейм в 1661 г. освободил Каменец от налогов на 4 года. После московско-шведского нашествия замок утратил военное значение, оставшись лишь двором — центром староства. Инвентари Каменецкого замка XVIII в. рисуют картину заброшенности башни. Въезд в замок со стороны города вел через ворота на валу, затем по мосту через ров, сквозь другие ворота, по бокам которых находились карцеры (замок выполнял и функции тюрьмы). За рвом по периметру двор был обнесен остроколом. Все постройки были деревянные, стекла в окнах оправлены в дерево и олово, камин с лепниной, при нем печь кафельная с орлами... «За пределами замка на валу вежа, под которой есть укрытие с дверью в него на верхний ярус... Нижний ярус без двери и какого-либо закрытия, эта вежа сверху замурована, внутри поруйнована, в окнах нет стекол» (1728 г.).

В 1757 г., когда староство держал гетман Михал Казимир Радзивилл, на детинце уже стоял дворец деревянный, недавно построенный, с шестью комнатами, столовой и залой, в

которой по углам стояли два камина-шкафчика, а в кабинетах — четыре округлые печки. Топка печей находилась под залой в сводчатом подвале. (В 1896 г. на месте замка стояли здания мужского и женского училищ. Когда при постройке копали ямы для их фундаментов, нашли подземную кирпичную кладку. Скорее всего, это был подвал дворца, упомянутый выше. Среди жителей ходило предание, что между дворцом и башней существует подземный ход.)

Замок окружали ров и штакетная ограда. «Замковая башня округлая, высокая, кирпичная, имеющая под собою склеп, наполовину сводчатый. Ко входу в склеп пристроен тамбур из распиленных бревен с входной дверью на завесах. Вход в склеп шел через такую же дверь, только с железной решеткой. К башне недавно пристроены сени из тесаного дерева, с дверями и полом из досок, и в самую башню ведут двери такие же сосновые из плах, имеющие шесть фрамуг и пол из досок». О верхних ярусах в инвентаре 1757 г. не говорится ни слова, видимо, они уже никак не использовались. Впрочем, в 1761 г. в Каменце стоял драгунский полк, и служивший в нем любознательный Удальрик Радзивилл с офицерами наблюдал редкое астрономическое явление — прохождение Венеры через диск Солнца. Тогда еще никто не задумывался над происхождением и исторической ценностью необычной башни.

Последний известный инвентарь Каменецкого замка от 28 декабря 1822 г. описывает заурядный казенный







двор, не упоминая ни о валах, ни о рвах. Вежа оказалась уже вовсе за его пределами, из нее начинают добывать кирпич. «В правой стороне за замковым детинцем столп, или древняя башня, из кирпича вымурована, вокруг оной внизу штабель вынутого кирпича, под ней подвал с вновь пристроенным тамбуром из соснового дерева, накрытым дранью, с лестницей, вмурованными косяками и дверью. С другой стороны башни сделан склад... Наверху башни свод из кирпича продырявленный. Внизу — лестница для возможности ремонта вверху этого здания».

Удивительно, что в 1826 г., сразу после восшествия на престол, император Николай I приказал не разрушать древние здания, в частности замки, а чинить, правда, чинить только ворота в них или нужные помещения. Министерство внутренних дел затребовало от губернаторов сведения о наличии таких древностей. Гродненский гражданский губернатор К.О. Максимович направил запросы уездным исправникам. 3 ноября 1827 г. получено донесение из Бреста «о наличии каменного столпа в Каменце, принадлежавшем графам Велиогурским». Исправник обмерил столп и сообщил, что высота его равна 35,5 аршина, окружность — 48 аршин, толщина стен 3 аршина. «Кирпич ни в чем не испорчен, и так как (столп) построен из древнего хорошего материала, то кирпич почти скаменелый, и сей столп весьма прочный, а токмо в середине как было несколько этажей, то полы верхние разстроены».

Исправник не смог выяснить, когда и зачем построен «столб, или башня», которая издавна находится в Каменце,

но узнал, что когда в местечке была Магдебургия, то этот столб в качестве герба был изображен на печати. Местные жители излагали разные версии. Одни говорили, что башня построена неким удельным князем, чтобы заключить в ней за преступления своего родного брата, и другая такая же якобы была построена в Каменце-Подольском или в Хелме для ареста второго преступного брата. Другие считали, что во времена проживания в здешних местах ятвягов башня применялась для обороны и в ней могли помещаться несколько сот человек на одном этаже, а таковых было три. «Около той башни есть замок, с дерева выстроенный на высыпанном валу, с одной стороны рекою и с трех сторон рвами обведенный, и во время сражений, когда замок был осажден, то гарнизон, защищающий местечко, в подобных строениях помещался и оттоль через окошки бросал нужные для спасения себе снаряды». В докладе исправника содержится версия происхождения названия Беловежской пущи от названия этой башни, некогда звавшейся Бела Вежа из-за того, что она была побелена известью, «чего и ныне остались на ней следы».

В 1837 г. Игнатий Кулаковский послал губернатору в Гродно перевод с французского «Столп Каменца Литовского» и картину с изображением башни. В тексте указана дата основания Каменца — 1276 г. В «Гродненских губернских ведомостях» за 1845 г. была опубликована статья «Башня в Каменце Литовском», подписан-



ная «Иг. К.». Автор (Игнатий Кулаковский) писал, что в 1837 г. он, будучи в Петербурге и Москве, ознакомился в музее Румянцева с Волынской летописью, найденной в 1809 г. Далее цитируется летописный рассказ об основании Каменца, но мотив постройки столпа высказан наивный: в память о пребывании князя. Сообщается, что внутри остались еще следы деревянных ступеней, а от половины высоты (?) идут вверх в стенах выложенные ступени. Своды каменные в дырах, в 1834 г. еще был вверху купол, также дырявый. Внизу в башне находятся обширные погреба.

В том же году гродненская строительная комиссия направила помощника архитектора Каленкевича в Каменец с заданием описать башню. Он ограничился кратким отчетом: башня имеет пять этажей, деревянные перекрытия и кирпичный свод, покрывающий верх, совершенно обрушились.

В книге «Древняя Польша», изданной в Варшаве в 1846 г., Михал Балинский описал кратко состояние Каменца и башни: «...теперь чахлое местечко, только один этот столп, без употребления уже почти пять веков, торчит своими руинами над массой низких халуп. Внутри этого почтенного памятника сохранились даже остатки дубовых лестниц Бог знает каких времен, но от середины высоты идут вверх ступени в стене; своды, хотя и продырявленные, как рыболовная сеть, однако еще держатся, под башней обширные подвалы»[2]. С Балинским осматривал и обмерял башню соседский помещик И.А. Херсон-







ский, сделавший прекрасный рисунок. Описание Гродненской губернии М. Бобровского (1862 г.) также отмечает в башне каменные ступени и дубовые балки.

Вопрос о ремонте башни возник в 1853—1866 гг., возможно, здесь сыграла роль печальная судьба Коложской церкви. В это время Каменецкий двор принадлежал помещику Косаржевскому. В гродненской строительной комиссии обнаружили план башни, неизвестно кем и когда составленный, но никакие работы не выполнялись.

В 1869—1881 гг. власти вновь заинтересовались Каменецкой башней. Сведения из губернской строительной комиссии не дают ничего нового по сравнению с прежними сведениями; отмечено, что местные жители называют башню «столпом», а также, что погреб внизу под ней был перекрыт сводами. В это время в Петербурге появилась публикация И.И. Срезневского, который пересказал письмо Будиловича от 2 августа 1864 г. с описанием Каменца и башни. Будилович (еще студент Петербургского университета, впоследствии известный славяновед) прислал Срезневскому рисунки деревянной церкви и башни, а также поделился своими наблюдениями. «Толщина зубчатых стен башни (1 сажень и 2 вершка) дает повод заключить, что она была в свое время крепостью. Высота башни 12 сажен 2 аршина, диаметр 6 сажен. С северо-востока ее видно за 15 верст. Гора

на берегу реки по всем признакам насыпная: об этом говорит правильный круглый вид и крутой подъем на 2 сажени. В башне 4 этажа; 1-й сохранил сводчатый потолок, остальные — сгнившие деревянные балки. Окна узкие (4 вершка), длиной в рост человека, только на 4-м этаже четыре больших окна в четыре стороны света и пятое узкое. Вверху свод, стены окончены тупыми зубцами. Свод сверху был покрыт пластом песка, поросшим сорняками и деревьями. Внизу был большой каменный погреб. Построена из красного кирпича; связка и известковый кирпич так отвердели за века, что весь столп словно один большой камень. Помещик, покойный Косаржевский, пытался разбить на кирпич, но не смог. Теперь столп стоит пустой, ни к чему не годный». Местные жители вспоминали, что еще лет 10 назад по воскресеньям и праздникам над столпом вывешивали хоругвь. Пока шло богослужение, нельзя было начинать торг на базаре. Рассказывали, будто строили столп великаны, стоя на коленях; говорили также, что столп — это надгробный памятник великану. Однако некий археолог сообщил Будиловичу, что столп построили волынские князья в XIII в. как пограничную крепость.

В 1881 г. в «Литовских епархиальных ведомостях» священник Балабанович дал описание состояния башни в 1879 г. Поверхность насыпного холма неровная, так что памятник «стоит в котловине, куда стекается часть воды при таянии снега или дожде. Высота его 16 сажен, диаметр более 6. Кирпич трех цветов: темно-желтый,



темно-красный, темно-бурый. Стены буро-красного цвета. Внизу, около хода во 2-й этаж, они выкрошились, особенно в самой нижней части. Эти выемки глубиной в два с половиной кирпича произошли от действия стекающей воды и человеческих рук. Тупые зубцы вверху поросли травой, частично отвалились. Верхний свод, по сообщению жителей, рухнул несколько лет назад, но не ранее 1864 г. Внутри никаких следов от этажей, только выемки, где были балки, груды разбитых кирпичей лежат на самом нижнем своде». Во время восстания 1863 г. в башне был военный цейхгауз, даже стояли пушки.

Балабанович насчитал в башне четыре этажа, включая подвал с уцелевшим сводом и круглым отверстием посредине. Ход в подвал ничем не закрывался. Вход во 2-й этаж по распоряжению станового пристава был забит досками, однако дети все же выносили оттуда кирпичи. Автор заметил следы штукатурки внутри верхнего этажа. Он описал расположение окон по этажам и их форму. «Лет 20 назад (в середине XIX в.) башня была еще обнесена оградою, от которой не осталось и следа. Теперь вокруг башни грязь и нечистоты, которые делают неудобным само обозрение ее. Нечистые животные находят себе приют в погребе и выкрошившихся частях внешних стен».

Каменецким двором, в том числе и башней, с 1798 г. владел граф Вельгорский, потом Косаржевский, после 1863 г. — русский помещик Иванов. В 1879 г. двор был куплен на имя Штарка, инспектора народных училищ, и Балабанович опасался, что столп вскоре могут превратить в амбар или








склад. Была образована частная комиссия по сохранению памятника древности, которая надеялась восстановить верхний свод башни и обнести территорию оградою. Но этого не произошло.

В 1899 г. по просьбе Императорской археологической комиссии академик архитектуры В.В. Суслов исследовал Каменецкую башню и составил проект ее реставрации. Император Николай II повелел ограничиться необходимыми работами: 1) восстановить наружную облицовку стен и оконных проемов там, где она повреждена; 2) поправить зубцы по чертежу академика Суслова и покрыть их каменными плитами; 3) внутри башни наверху сделать коническую крышу, которая не должна возвышаться над зубцами и основание которой должно располагаться на уровне между зубцами для стока воды. Работы были выполнены в 1903 г.: заложены кирпичом разрушенные участки стен и зубцов, уложены деревянные балки и перекрытия между этажами. Крестьянин Мотыкальской волости Семен Дранюк изготовил 10 тысяч штук кирпича для реставрации. Кладку выполнял мастер из Гродно Адам Артишевский[3]. Кроме того, был отброшен от стен башни слой земли глубиной 3 м и выложена камнем поверхность вала, образовавшегося при этом. Тем самым оказался вскрытым нижний ярус башни, который в инвентарях считался подвалом (судя по каменной кладке внутри, он и использовался для хранения продуктов).

Башни, подобные Каменецкой, были также в Берестье и Гродно; две сохранились возле Холма, однако они

значительно скромнее Каменецкой по размерам и архитектурно-строительным качествам. В кладке Каменецкого столпа, в отличие от Холмских, не применялся природный камень. Для сооружения потребовалось почти полмиллиона штук кирпича размером около 26,5x13,5x8 см, темно-красного и желтоватого цвета. Для лучшего сцепления с раствором кирпич имеет на одной плоскости продольные борозды (как будто от пальцев руки). Высоким качеством отличается и кладка на известковом беловато-сером растворе, толщина швов 2—4 см. Для связывания рядов кирпичей в них чередуются два «ложка» и один «тычок» (балтская или вендская кладка). В стенах башни за много столетий не возникло значительных повреждений от природных воздействий. Стены кверху немного утоньшаются, образуя снаружи небольшой наклон к вертикальной оси. Они не имеют никаких горизонтальных или вертикальных членений, прорезаны только окнами-бойницами, лишь в самом верху башня опоясана четырьмя рядами поребрика. В первом ярусе — две бойницы, во втором и третьем — по три, в четвертом — две и большой проем, обрамленный скромным готическим порталом. Это, вероятно, древний вход, обращенный в сторону реки, к нему позже приделали балкон. В пятом ярусе четыре бойницы с расширением внутрь и наружу, а между ними плоские ниши с полуциркульным завершением, которые некогда штукатурились и белились. Ступени в стене, начинаясь с третьего яруса, выводят на верх башни с 14 зубцами, в каждом из которых небольшое отверстие, служившее для наблюдения при вражеском обстреле. Снаружи и внутри в кладке стен осталось множество регулярных углублений для закрепления строительных лесов.

